

# Сініца—прыяцель садавода.

Ня кожны, мусіць, ведае, якую карысьць прыносіць маленькая вясёлая птушачка сініца.

Я хачу падзяліцца сваімі нагляданьнямі за гэтай цікавай птушачкай.

Вясною, у сакавіку, яна зьвівае сваё гняздо.

Я наглядаў сініцу ў цяглярым будынку. На мэтр ад зямлі яна зрабіла сваё гняздо. Потым зьнесла сем маленькіх белых, з чорнымі, чырвонымі і бурымі кропкамі яечак. Сініца не зьлятае з гнязда нават тады, калі ёй пагражае небясьпека.

Праз тыдняў тры з яечак выходзяць галышаняткі. Вось з гэтага часу і пачынаецца самая карысная для нас работа сінічкі. Сініца корміць сваіх дзяцей за гадзіну ня менш пятнаццаці разоў (кормяць самка і самец). Калі лічыць працоўны дзень сініцы за 15 гадзін, дык будзем мець такі вынік: 225 шкоднікаў землягоба зьнішчае адна сініца за дзень! Зьнішчае сініца вусеняў, матылёў і іншых шкоднікаў, якія больш усяго разводзяцца ў садох.

Піонэры павінны прываблівацц у свае сады сініц. Трэба ставіць для сініц штучныя хаткі, падобныя на шпакоўні, разьмерам: 15×15×25 см., лячок—5 см.

Юлат П. Ш.

## „КУЛЬТУРНЫЯ“ САДАВОДЫ.

Піонэркі з нашага атраду, Рахіль і Валя, вельмі любяць займацца „культурным“ садоўніцтвам. Яблыкі ў садох яшчэ толькі завязаліся, а яны пойдуць сабе ў чужы сад ды латошаць зялёныя маленькія яблыкі. Але-ж яны ўмеюць яшчэ і організаваць вакол гэтай справы іншых дзяцей, не—піонэраў.

Таксама часта можна бачыць іх і ў такіх цікавых позах: зьвяжуцца паміж сабою гальштукамі і лётаюць па вуліцах. Гальштукі, між іншым, пачалі насіць пасьля заметкі ў „Беларускім Піонэры“.

Сорамна такім піонэркам! Заместа карыснай і патрэбнай работы сярод неорганізаваных, яны займаюцца дурасьлівасьцю і злачынствам.

Бярозка.

в. Доўгае,
Бабруйшчына.

# ШТО ЧЫТАЦЬ.

**А. Лебядзенка.—На канцавосьсе па паветры.**

БДВ. Стар. 100, цана 45 кап.

Пра адважныя, саамахвярныя падарожжы людзей у невядомыя яшчэ краіны ёсьць багата кніжак. Аднэй з такіх кніжак будзе і разглядаемая кніжка А. Лебядзенкі.

У кніжцы „На канцавосьсе па паветры“ апісваецца падарожжа сьмелых людзей на паўночнае канцавосьсе. Паўночнае канцавосьсе даўно вабіць да сябе падарожнікаў. Ужо некалькі сталецьцяў таму назад пачалі людзі спробаваць дабрацца да апошняга пункту земнай кулі. Але шлях туды вельмі трудны. Шлях ляжыць праз Ледавіты акіян... Спробалі туды дабірацца і на караблёх, і на санях з сабакамі, і на лыжах, і на паветраных шарох...

Але ўсе спробы чалавека канчаліся дарма. Шмат людзей злажыла свае косьці ў лёдавай пустэчы.

У кніжцы ўся ўвага аддаецца апісаньню прадапошняга палёту на канцавосьсе пакойнага вучонага нарвэжца, героя палярных краін, Амундсэна ў 1926 годзе. Як вядома, Амундсэн перамог усе труднасьці і на досыць вялікім паветраным караблі „Нарвэгія“ даляцеў да канца зямлі.

Апісаньне палёту перадаецца вельмі жыва, тым больш, што сам аўтар некаторы час прымаў удзел у гэтым палёце.

У другім выданьні гэту кніжку трэба абавязкова папоўніць падзеямі апошніх гадоў, якія адбыліся ў паўторным палёце на канцавосьсе. Нават варта выдаць асобную кніжку на гэту тэму.

Урэшце, і агульная наша бяда не абышла і гэтай кніжкі: на ўсю кніжку дадзена тры малюнкі, ды і тыя нікуды нявартыя. Перакладзена кніжка сухавата „на скорую руку“.

І толькі цікавы зьмест стушоўвае падобныя хібы.

**ДЗЯТКОРЫ І ЧЫТАЧЫ!**
**ПРЫСЫЛАЙЦЕ СВАЕ ЗАЎВАГІ НАКОНТ ПРАЧЫТАНЫХ ВАМІ ДЗІЦЯЧЫХ КНІЖАК.**

# РЭЙСФЭДАР.

Для чырчэньня патрэбна знарочыстая прылада, так званы рэйсфэдар. Ён дорага каштуе і шмат хто ня можа яго купіць. Але такую прыладу можна лёгка зрабіць самому. Вазьмеце пяро „рандо“. Палажэце яго на жалезны роўны брусок і стукніце па ім малатком так, каб яно раскалолася папалам. Калі пяро расколецца няроўна, краі яго можна падрэзаць напілкам.

Цяпер зрабеце з дрэва ручку. На адным канцы загастрэце краі ручкі, як паказана на малюнку. На гэтыя краі палажэце палавінкі пяра і скруцеце іх ніткай ці тоненькім дроцікам. З тонкага дроціку (пажадана меднага) сагнеце колца, каб яго можна было пасоўваць па палавінках пяра і такім чынам рэгуляваць пяро. Такі рэйсфэдар служыў мне вельмі добра.



Рис. 1.


Рис. 2.

*Міхась Прошын.*

Зьмест:



Рэдкалегія: **Баліцкі А., Буклей В., Гарбуз П., Маур Я., Якімовіч А.**
Адказны рэдактар: **П. Гарбуз.**

*Год выданьня 5-ты.*

**Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц 20 к.
„ 3 м-цы 60 к.
„ 6 м-цаў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 16 ЖНІВЕНЬ 1929 г.

# ДА НОВЫХ ПЕРАМОГ.

Стройнымі шэрагамі, выстаўкамі, спаборніцтвамі, справаздачнасьцю перад працоўнымі аб сваёй вялікай творчай працы і шмат чым іншым амаль тры апошнія месяцы піонэрыя Беларусі ў раёнах і на Ўсебеларускім зьлёце правярала сябе перад савецкай і партыйнай грамадзкасьцю, падводзіла вынікі сваёй працы. На сэкцыях Усебеларускага зьлёту дэлегаты абмяняліся вопытам, прынялі пастановы аб далейшай працы, наказы да грамадзкасьці.

Зьлёт яскрава паказаў слабыя вучасткі нашай працы, якія патрабуюць ад нас большай увагі да сябе.

## Мы—байцы за 5-цігодку.

Вялікі шлях пройдзен піонэрорганізацыяй. Ад барабана і маршыроўкі да ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, да выкананьня заданьняў дзяржаўнага характару. Сотні піонэрскіх атрадаў Беларусі прымалі ўдзел у культпаходзе — навучалі няпісьменных, удзельнічалі ў паходзе за ўраджай і колектывізацыю—ачышчалі насеньне, закладалі паказальныя гароды,градкі, праводзілі агітацыю сярод сялян, прымалі ўдзел у соцыялістычным спаборніцтве на фабрыках, заводах і інш.

Але-ж гэта яшчэ толькі пачатак працы. Зьлёт сказаў: *„Пяцігадовы плян вялікіх работ павінен стаць цэнтрам усяе нашае працы“*. Да выкананьня яго неабходна прыцягнуць усю дзетвару.

*Мы павінны ўцягнуць у піонэрорганізацыю ўсіх дзяцей рабочых, працоўнага сялянства і служачых.* Гэта наша задача. Яе трэба выканаць.

## Абаронім батрачат.

Зьлёты выявілі, што піонэрскія атрады, профсаюзы зусім мала ўвагі ўдзяляюць абароне правоў батрачат. Батрачаты ня маюць магчымасьці наведваць школу, эксплёатуюцца. А на Беларусі працуе па найму каля 35.000 дзяцей. Разгарнуць працу з батрачатамі, усіх іх уцягнуць у піонэрскія атрады, не дапускаць іх эксплёатацыі, дапамагчы ім вучыцца ў школах, абараніць іх правы—гэта справа піонэр-організацыі, профсаюзаў і комсамолу.

## Пра школу.

Некаторыя піонэрскія атрады, фарпосты яшчэ ў мінулым годзе дапамагалі дзецям беднаты—абуткам, вопраткай, падручнікамі, дабіліся організацыі ў школах гарачых сьнеданьняў, праводзілі вялікую грамадзкую працу і інш.

Працу гэту ў гэтым годзе ў некалькі разоў трэба павялічыць. Наша школа павінна быць бліжэй да вытворчасьці. Політэхнізаваць школу—вось асноўнае на бліжэйшы час.

Другагодніцтва каштуе нашай дзяржаве мільёны рублёў. Дапамогай адстаючым вучням падручнікамі, організацыяй гурткоў, прыкладнай вучобай піонэраў зьнішчым другагодніцтва.

*Дапаможам ахапіць усіх дзяцей працоўных школай,* дадзім дзецям беднаты, батрачатам: вопратку, абутак, падручнікі. Гэта рашэньні зьлёту. Іх трэба выканаць.

## Гаспадары—мы.

Выканаць усе рашэньні зьлёту, стаць баявой організацыяй, піонэрская організацыя зможа толькі тады, калі ўсе піонэры сапраўды стануць гаспадарамі організацыі, будуць адказваць за яе, колектыўна, дружна будуць працаваць. І па гэтаму ўнутры-атраднай працы—колектыўнасьці, жывасьці, рознастайнасьці ў формах працы,—найбольшая ўвага.

Дзіцячы друк павінен быць першым памочнікам атраду ва ўсёй яго працы.

Зьлёт сказаў: „Кожнае зьвяно, атрад, школа павінны выпісваць сваю часопіс „Беларускі Піонэр“. А „Б. П.“ павінен кіраваць, дапамагаць атрадным насьценгазэтам, усёй працы атрадаў.

У час зьлёту грамадзкасьць узварухнулася, удзяліла піонэрорганізацыі большую ўвагу.

Пасьля зьлёту наша бліжэйшая задача — падвоіць організацыю, а патрабаваньне да кіраўнікоў комсамолу, партыі—даць сотні лепшых комсамольцаў і комуністых кіраўнікамі новых атрадаў.



# Якая зьмена з нас расьце?



## ЗЬЛЁТАЎЦЫ Ў тав. ЧАРВЯКОВА.

У час зьлёту ўдзельнікі яго наведалі некаторыя буйнейшыя заводы і ўрадавыя ўстановы г. Менску.

Асабліва цёплая сустрэча дэлегатаў адбылася з тав. *Чарвяковым*. Гутарылі з Усесаюзным старшынёю, як з павадыром у атрадзе. Піонэры расказалі тав. Чарвякову, што яны цяпер робяць на фабрыках, у вёсках, як удзельнічаюць у социялістычным спаборніцтве.

На фотографіі—тав. Чарвякоў з дачкою і яе сяброўкай па школе шагаюць на зьлёт.

## БУДУЧЫЯ ЭДЫСОНЫ.

На зьлётаўскай выстаўцы самым багатым і прывабным быў тэхнічны аддзел, чаго толькі ня было тут: і самалёты, і трамваі, і плугі новых конструкцый, і розныя іншыя прылады, што ўжываюцца ў сельскай гаспадарцы, ці на фабрыках. Цікава, што думкі юных тэхнікаў заўсёды імкнуцца адшукаць што-небудзь сваё, новае; яны найчасьцей не паўтараюць у сваіх модэлях точна рэчаў, а стараюцца дапоўніць іх сваім вынаходзтвам.

На фотографіі модэль трамвая, зробленая піонэрам *Сырапушынскім*, з атраду „Чырвоны Хімік“.



## ЯКАЯ НАМ ТРЭБА КНІЖКА?

Асобная сэкцыя зьлёту—сэкцыя друку—вырашала пытаньне: „Якая нам патрэбна кніжка?“

Сэкцыя друку сказала, што нашае Выдавецтва часта ня ўлічвае бягучага жыцьця і інтарэсаў дзяцей. Яно выпускае такія кніжкі, з якімі можна было-б і пачакаць. Нам трэба цяпер кніжка пра 5-годку, пра тэхніку, пра рэволюцыйнае змаганьне комсамолу і партыі ўва ўсім сьвеце; нам патрэбны піонэрскія песьні, п'есы. А гэтага Выдавецтва менш усяго друкуе.

На фотографіі дзяткоры „Беларускага Піонэра“, зьнятыя з тав. *Буклей* і тав. *Гарбуз*.



## НЕ ДАМО Ў КРЫЎДУ ЮНЫХ ПРОЛЕТАРАЎ.

Пра батрачат на зьлёце гаварылася многа. Гэта адзін з ударных франтоў піонэрскай работы. Як вядома, яшчэ ёсьць у нас дзесяткі такіх батрачат, аб якіх ніхто не клапоціцца. Задача піонэраў—выявіць усіх батрачат, дапамагаць ім дабівацца сваіх законных правоў, уцягнуць іх у сваю сям'ю.

На фотографіі—група батрачат з Мазырскай акругі.





# ЗЬЛЁТАВЕЦ ЯНКА.

Радасьці яго ня было межаў. У сваім жыцьці Янка не адчуваў сябе такім рухавым, такім шчасьлівым, як цяпер. А ўсё-ж жыцьцю яго, як не кажэце, мінула шмат часу. Летам радзіўся ён, а ўвосень таго-ж году ў вялікім горадзе Ленінградзе адбыліся вялікія падзеі.

І вось за ўвесь гэты час Янка ня быў такі шчасьлівы, ня меў такой радасьці, як цяпер. Праўда, быў яшчэ выдатны выпадак у кругазвароце яго дзён—гэта той час, калі Янку ўрачыста павесілі на шыю гальштук. Янка добра памятае гэта. Ён, як цяпер, бачыць перапоўненую людзьмі залю—усе глядзяць на сцэну. А яны пастаўлены ў шэраг, даюць урачыстае абяцаньне. З якім імпэтам, з якім гонарам гукнулі яны тады ў адказ на словы кіраўніка: „Заўжды гатовы"!

Янку гэта надоўга ўрэзалася ў памяць.

* * *

О, так, Янка едзе ў горад, у вялікі горад. Яму казалі, што той горад, куды паедзе ён, можа ў сто разоў большы за іх вёску. А Янка ня лічыў сваю вёску за маленькую. Сто пяцьдзесят штук жывёлы, за якою ён і яшчэ адзін хлопец ходзяць падпасычамі, давалі яму права трымацца свайго погляду наконт велічыні вёскі.

— Калі горад у сто разоў большы за нашу вёску, дык там, напэўна можна заблудзіць,—разважае Янка.

З увагаю выслухаў бацька ўсё тое, што гаварыў яму Янка. Нічога не супярэчыў—толькі сказаў сам сабе:

— Дык гэта-ж, мусіць, трэба будзе на гэтыя дні падпасыча наняць на тваё месца, калі так.

А пасьля гэтага зьвярнуўся да Янкі:

— Толькі-ж глядзі, сынок, сьцеражыся там аўтамабілю, каб не папаў пад калёсы.

— Каб можа ты з ім сам паехаў, боязна аднаго пускаць у такі вялікі горад,—занепакоілася маці.

— Дык я-ж не адзін там буду. Яшчэ едуць з раёну болей, ды і кіраўнік будзе. Буду бачыць, як другія будуць рабіць, — сказаў Янка.

— Глядзі, сынок, не страляй варонаў,—была апошняя бацькава натацыя Янку перад ад'ездам.

...Ападае паволі змрок—хлопцы, нагаварыўшыся ўволю, залазяць на верхнія паліцы вагону і засынаюць моцным сном...

* * *

— Янку нашага выбраць, Янку з нашага атраду! — разносяцца галасы ў Народным Доме.

— Ня трэба мяне—я ня быў у горадзе,—крычыць усьлед Янка!

— Дык пабудзеш—

— Каго-ж іначай—Янку, Янку.

— Міхася!

— Сымона! — перамешваюцца галасы.

Доўга яшчэ цягнецца гэты гармідар. Кожны стараецца адстаяць сваю кандыдатуру, кожны стараецца паслаць з свайго атраду, але мала месц—усіх не пашлеш.

А пасьля, калі усё гэта ўлеглося, Янка чуў ужо, як давалі ім наказ, што гаварыць у горадзе, аб чым клапаціцца, за што каму дзякаваць.

— Не забудзьцеся пра шэфаў, няхай іх к зіме развярушаць.

— Каб больш кніжак было ў школьных бібліатэках для чытаньня зімою—скажэце там...

Многа яшчэ пра што наказвалі. Усяго цяпер і ня ўспомніш. Добра, што запісалі ўсё гэта. Яны, тыя, што ехалі ў горад, пра ўсё абяцалі гаварыць, пра ўсё клапаціцца, запэўнівалі сваіх таварышоў.

Далей Янка бачыць, як ён прыехаў тады да хаты. Як бацькі доўга ня верылі яму. Маці, дык тая ня ўтрывала, каб не паказаць свайго задавальненьня, свае радасьці:

— А, сынок ты мой! Гэта-ж твой дзед і бацька ніколі, век зжыўшы, ня былі ў такім гонары, як ты.

— Што раўнуеш даўнейшы сьвет з цяперашнім. Ты ў горадзе ні разу ня была,—нібы пакрыўджана заўважыў бацька.

І агарнула радасьць Янку, што ён настолькі малодшы за бацькоў, а перагнаў іх. І хочацца яму ад расчуленасьці абняць бацькоў, пацалаваць іх і сказаць:

— Мы зьвернем, мы нагонім тое, што страцілі, чаго не нагналі вы.

Янка яшчэ хоча штосьці сказаць на ўцеху бацьком, але ражок, галасы і торганьне некім яго ззаду за сарочку—не даюць сабрацца яго думкам.

Яму злосьць на ўсё гэта. Ён бачыць праз вакно вялікі натоўп людзей і ня можа зразумець, што дзеецца вакол, бачыць, як махаюцца сьцягі, чуюцца неразборчывыя галасы. Адцягваюцца думкі ў Янкі пра бацькоў. Ён хоча ўслухацца, што гавораць у натоўпе. Але... на гэтым месцы ўвага Янкі губляецца.

— Жылін, Жылін, уставай скарэй!—тузае павадыр за сарочку. Чуеш вітаюць нашых ужо?

Разам з другімі выходзіць Янка з цягніка і бачыць, як на вялікім будынку, белымі літарамі на чырвоным палатне напісана:

„Прывітаньне дэлегатам Першага Ўсебеларускага Зьлёту піонэраў!"

Усьміхнуўся Янка. Радасна зрабілася яму. Успомніліся бацькі—яны ніколі ня мелі такое радасьці. Словы гэтага прывітаньня мелі дачыненьне і да Янкі—ён быў дэлегатам.

А на другім баку станцыі разносілася моцнае „ура"! Там празьлівымі гудкамі раўлі аўтамабілі. Там быў шумлівы горад, пра які казалі Янку дома.

**Алесь Пальчэўскі.**






Апавяданьне *С. Баранава.* Малюнкі *А. Тычыны.*

I.

ВЕЛЬМІ мне хочацца есьці. Страшэнна хочацца! Я глытаю раз-по-разу сьліну і ўсёроўна не магу забыцца на тое, што мне хочацца есьці. Я ўспамінаю так шмат усяго смачнага, так шмат усяго салодкага, так шмат... во, да чаго мне хочацца есьці!

Чаму яно іменна так успамінаецца, калі я хачу есьці? Мне здаецца, каб не ўспаміналася яно, я менш-бы адчуваў мой голад. Канешна, менш. Бо я ня ведаў-бы, што яно ёсьць такое смачнае.

Мая матка часам пячэ ў сьвяточныя дні пшанічныя бліны. Яна мачае іх у сьмятану. Потым пасыпае зьверху пяском з цукру. І мы—я, мой бацька, мая сястра Стэфа і мая матка—ядзім гэтыя бліны.

— О, які гэта смак! Вы ня ведаеце, які гэта смак.

* * *

Зараз ані нікога няма ў хаце. Я толькі адзін. Усе недзе паразыходзіліся. Мала куды паразыходзіліся. Вядома—сьвяточны дзень. Мяне таксама ня было дома. Я гуляў з Данілавым Уладзікам. Качаў кацёлку на нашым выгане. Цяпер толькі што прышоў. І от таму мне так захацелася есьці.

Калі я ішоў, хата была замкнёна. Ну, то кудою я мог улезьці ў хату? Кудою? Але я доўга аб гэтым ня думаў.

Я пералез цераз шчыкеты ў наш агародчык, што пад вакном. Пералазячы цераз высокі востры плот, я зачапіўся за цьвік калошаю маіх картовых штаноў. Корт на маіх штанах новы. Мне нядаўна пашыла іх цётка Арына. Але ўсё-ж ён, гэты корт, падаўся. Я, скакаючы з шчыкетаў, разадраў усю калошу. І не па шве, а па цэлым.

— Канешна, матка мая будзе сварыцца за разадраныя штаны. Дзіва што будзе. Але што-ж я павінен рабіць? Калі-б мая матка была разумная, яна-б не сварылася. Бо ўсёроўна-ж, штаны ўжо разадраны. І ад яе сваркі яны не зашыюцца.

Я, пералезшы, падышоў да вакна. У аднэй шыбе кругом адстаў кіт. Тарчаць толькі адны загнутыя цьвікі. Яны гэтым сваім загнутым трымаюць шыбу. І я вырашыў адагнуць іх.

Калі я адгінаў ужо аж другі цьвік, я вельмі моцна прыціснуў кулаком у рог шыбы. Я так прыціснуў, што шыба аж трэснула. І не папалам, а на тры кавалкі.

— На што было шкляру забіваць так туга гэты цьвік?

— А мо' ня моцнае шкло ўдалося?—разважаў я.

Па-маему, я не вінаваты, што шыба трэснула.

Дастаючы шыбу, два кавалкі шкла прытрымаў. А трэйці—выпаў у мяне з рук. Ён папаў якраз на камень, што каля падмуроўкі, і разьбіўся. І нават на дробныя кусочкі.

— Цяпер ня ўставіш:—не зьбярэш кавалкаў.

Бацька будзе крычаць на мяне. Але я таксама павінен сказаць, як і на матку: калі-б ён меў розум—ня крычаў-бы, не сварыўся-б.

— Па-маему, няма чаго пужаць дзіцяці.

Калі я адшчапіў кручок у вакне і калі я лез праз вакно, са мною здарылася няшчасьце: я ня мог адразу ўзьлесьці на падваконьнік, зьехаў і папаў босаю нагою на разьбітае шкло.

Маленькае шкло папала пад самую скуру маёй босай нагі. Пашла кроў і мне вельмі моцна забалела нага.

— Каб цябе агонь спаліў!—сказаў я ад злосьці.

І потым ужо, прыбавіўшы сілы, я за адзін раз улез у хату.

— Цьфу, каб ты дымам паднялося!

Так кажа мой бацька. Гэта як бывае ў яго штонебудзь не пашанцуе.

У хаце я знайшоў іголку і дастаў з нагі кавалачак вострага, трохкантова шкла. Гэты кавалачак быў у крыві. Але я не баяўся крыві.

— Я-ж мужчына. Чаго-ж там баяцца?

Мой бацька кажа, што той, хто ад стрэмкі енчыць—дрэнь. Ён кажа, што такому чалавеку—грош цана.

— І я ня енчу ня толькі ад стрэмкі, а нават і ад шкла.

Я скінуў мае штаны, каб зашываць іх. Канешна ня так, як матка, а з большага. Усё-ж ня так будзе матляцца калоша.

Корт у штанах вельмі тугі. Я пачаў упіраць іголкаю ў стол. Дык іголчына вушка вельмі-ж заелася ў дзераве. Тады я хацеў тузануць іголку, каб дастаць яе з мяккага рогу стала. Але я, мусіць, крышку павярнуў у бок, бо іголчына вушка трэснула і засталося ў стале.

— Стэфа будзе сварыцца за іголку,—вырашыў я. Але я Стэфы не баюся. Яна сама баіцца бацькі. Яна нават баіцца і мяне.

— Вялікая важнасьць — іголка! Што гэта сто рублёў прапала, ці што?

Я вырашыў адзець мае старыя, з латкамі, штаны.

— Матка зашые калошу, тады адзену картовыя.

І я цяпер у старых штанах пасярод хаты.

І мне от цяпер вельмі-ж хочацца есьці.

II.

Адна хвіліна прайшла, пакуль я разважаў. І ня больш. Цераз хвіліну я ўжо ведаў. Я ведаў, што ў сенцах, на высокай паліцы, стаіць поўны збанок

нацэджанага малака. І што гэтае малако ўжо мусіць састаяўся: падыспадам кіслае, а зьверху адна сьмятана. Потым я ведаў, што мая матка сёньня пякла пшанічныя бліны. На содзе. Пшанічныя бліны да яшчэ на содзе, вельмі пульхныя, мяккія, як расскубеная вата.

Я ведаў, што гэтыя бліны ляжаць у шафе. І яшчэ я ведаў, што ў ніжняй шуфлядзе гэтай шафы, у жоўтым папяровым мяшку — цукравы пясок. Бацька прывёз пазаўчора з коопэратыву.

Я вырашыў нарабіць аладак у сьмятане. Накласьці іх намачаных у міску і тады, сеўшы за стол, есьці іх. Такіх нарабіць, якія робіць матка ў вялікія сьвяты для сябе. Альбо для цёткі Макрыны з яе дзядзькам. Гэта, калі прыяжджаюць яны да нас у госьці, як кажа мой бацька:—„у пяць гадоў адзін раз".

Дастаючы з шафы бліны, я неяк незнарок сьцягнуў за абрусам талерку.

У ёй, у талерцы, была пшанічныя мука. Я не пасьпеў падтрымаць талерку, як яна кінулася далоў.

Да таго моцная, што не разьбілася, а толькі зазьвінела як звон. Затое мука рассыпалася па ўсёй падлозе. Мука запыліла ўсе мае старыя штаны.

— Добра, што старыя, а то не адмыліся-б.

Я ўзяў венік і замёў муку ў сьметнік. А каб ня было прыкметна, што рассыпаў яе, я перамяшаў яе з сьметнікам.

Я парэзаў бліны на чатыры часткі: на такія невялічкія часткі, як аладкі. Тады я, узяўшы цукравы пясок, палез мачаць аладкі ў сьмятану. Але не хапала майго росту. Гэта, калі я паставіў з лік ды стаў на ём.

— Ну то што я павінен быў рабіць?

— Я ня ведаю, чаму мая матка ставіць так высока гэтыя збанкі? Нібыта яму там лепш кіснуць... Гэта-ж галаву можна скруціць дастаючы яго!

Я прынёс вузкую і доўгую дзеравяную калодачку. Паставіўшы яе на зэдлік, я стаў на ёй.

— Цяпер дастану.

Якраз я дасягнуў сваёй мэты. Я сваімі вачыма ўбачыў, як роўна застыла ў збанку белая, як сьнег, сьмятана.

У мяне аднекуль зьявілася повен рот сьліны.

— Дзіва, што смачнае яно будзе. Каб цукру ня было, а то-ж...

І я пачаў мачаць адною рукою з абодвых бакоў мае аладкі. Другою рукою я пасыпаў іх цукрам. І тады ўжо клаў іх па адной у міску.

Мне вельмі хацелася зьесьці першую аладку. Але я выцярпеў?

— Памачаю іх усе і тады ўжо сяду есьці. Гэтак-жа робіць мая матка.

— Выцярпіш,—сказаў я таму, што хацела ў ва мне есьці.

А да мяне, на калодку, узьлезла наша кошка— Рыска. Яна мармоча свае пацеры і лезе, таўчэ сваімі чмысікамі ў мае босыя ногі. От, можа, мяне ад гэтага і разьбірае злосьць.

— Яшчэ і яна будзе тут мне мяшаць! Ты мне не мяшай, калі я заняты. Я вельмі ня люблю, калі мне яно каторае мяшае. Я раблю што, а яно мне мяшае.—Апсі-ык, каб ты здохла!

І я адшвыргнуў яе нагою з маёй калодкі.

— Няхай ня ле-эзь-е...—хацеў выказаць.

Але, калі швыргаў кошку, калодка мая пахіснулася і я...

Я ўхапіўся за рог збанка. І, кідаючыся з калодкі, пацягнуў з сабою збанок. На ляту збанок вырваўся з маіх рук. Разам са мною, кідаючыся далоў, ён абліў мяне з галавы да ног сваёю белаю сыраваткаю.

А калі я лыпнуў вачыма, стоячы на зямлі, з мяне кругом цякло кіслае малако.

— Саўсім скісласся,—падумаў я.

Тады я глянуў кругом сябе і убачыў:—крыху ўводаль, на шаг ад мяне, ляжалі разьбітыя чарапкі такога-то паліванага збанка!

— Добра, што сьмятану змачаў...—падумаў я, але ня скончыў. Я ўспомніў пра аладкі.

— Дзе-ж мая міска, дзе-ж аладкі?

І калі я зірнуў, я ўбачыў: міска разьбітая, таксама, на дробныя цурачкі, закуцаная ў белую сьмятану, ляжала каля дзьвярэй.

— Такая-то была міска, — падумаў я.—Шкода міскі. Яна вельмі затлушчаная. Матка ў ёй пякла подкалатку.

А аладкі? — Яны былі пакуцаныя ў пыл, у сьмецьцё. Яны ляжалі параскіданыя па падлозе і дзе ні папала.

— Мая сястра, Стэфа, за гульнёю ня бачыць сьвету. Яна сёньня за гульнёю не падмяла сянец. Ото ўжо яе няма каму лупцаваць!

— Саўсім закуцаліся аладкі.

Мусіць неяк, калі кідаўся з паліцы збанок, ён зачапіў і міску. І от міска скінулася бадай што разам з збанком у адзін грук.

## У ДНІ ЗЬЛЁТУ



— Ура! увага герою дня!
ПІОНЭР: Мне аднаго дня мала: трэба, каб вы звярачалі ўвагу на мяне ўвесь год.

— Такая-то была міска!

... А малако, халоднае нейкае, капала з мяне ўсяго.

Рыска цяпер хлябтала яго разьбітыя, кіслыя кавалачкі: яна прыжмурыла зьлёгку востраканцовыя праразкі сваіх вачэй, крышку выгнула сваю сьпіну, вольна трымала свой хвост і—хлябтала. Здавалася, што Рыска ня хлебча, а падбірае сваім ружовым язычком разьбітыя кавалачкі ад нечага белага, фарфуровага. Здавалася, што яна гэтыя фарфаровыя кава лачкі ніжа, ніжа адзін за другім на невашта доўгае, доўгае без канца.



— Еш, каб ты здохла!—сказаў я Рысцы, адчыняючы ў хату дзьверы.

Я вырашыў пайсьці з дому, пакуль зьвернуцца нашы.

— Цьфу, каб ты дымам паднялося!

Я разважаў:

— Мала хто чаго натварыў,—разважаў я, вылазячы ізноў праз вакно,—мяне-ж ня было дома...

А дзірку ў вакне я залажыў Стэфінаю старою капотаю.

Я абцёрся ад кіслага малака і пералез цераз шчыкеты. Пералезшы, я накіраваўся ізноў да Данілавага Уладзіка.

Мне цяпер аніяк, чамусьці, ня хочацца есьці.

III.

Калі я вярнуўся да хаты—усе ўжо былі дома. Вечарэла. Бацька ляжаў на ложку і здаецца драмаў. Матка сядзела каля стала і невашта жавала, ела. А Стэфа—падмятала хату.

— Да гэтага часу не магла падмесьці...—падумаў я.

Увайшоўшы ў хату, я, як нічога ня было, скінуў маю шапку.

Яна, шапка, была раней не мая, а бацькава. Але бацька, паднасіўшы яе, сказаў мне:

— Насі калі хочаш.

Ад таго часу я і пачаў яе насіць.

Я палажыў шапку на падваконьнік. Потым сядаючы з другога рогу стала, на ўскасяк маёй маткі, я глянуў на выбітую шыбу. Яна, як я заткнуў, так і была заткнена Стэфінаю капотаю.

Ізноў, як ні ў чым нябывала, сядаючы на лаве, я сказаў:

— Вячэралі, мусіць...

Але ўсе маўчалі. Тады таксама і я пачаў маўчаць, зьлёгку памахваючы леваю нагою.

Невядома колькі-б гэтак прайшло. Але прайшло гэтак яно нядоўга. Пакуль Стэфа не замяла хату



і не пачала выбіраць сьметнік. Яна мусіць забылася, што я ў хаце. Бо не пасьпела яна ўзяцца за сьметнік, як за адзін раз выказала:

— Глядзеце, мама! Гэта-ж ён і тут нарабіў работы,—рассыпаў муку!

— Хто гэта ён—запытаўся я. Мяне во-во падшыбала вялікая злосьць на Стэфу.

Усюды, водбак, яна ўпраўная,—усюды яна ўлезе не ў сваё дзела!

Але я нічога не сказаў. Толькі перакіпела ўсё ў мяне ў сярэдзіне.

Тады бацька ўстаў з ложка.

— Дык як гэта яно, ты, сынок, столькі змог натварыць і за адзін раз?

Ён падышоў да майго тапчана.

— Гэта-ж, сынок, ты нанёс вялікі ўшчэрб для нашай гаспадаркі?

— Ведаеш, што ты нанёс?

— Ведаю,—адказаў я, як-бы нічога ня ведаючы.

Мне хацелася сказаць яму, бацьку:—„адкуль жа гэта я ведаю?“ Але я не сказаў. А бацька, не зразумеўшы мяне, дабавіў:

— То-то-ж, што ведаеш...

І, сеўшы каля мяне на тапчане, гледзячы проста ў мае вочы, запытаў:

— Кажы-ж, сынок! Расказвай, як гэта ўсё было. Калі раскажаш па-парадку я ня буду цябе біць?

— Нічога ня было,—адказаў я.—Я не вінават. От што.

У мяне цяпер падскочыла яшчэ і самая найбольшая злосьць. І я ад гэтае злосьці вырашыў выказаць, от няхай ведаюць.

Я сказаў.

— Шыба сама выбілася. Я толькі чуць яе прыціснуў. Трэба было-б не замыкаць хаты. Я хацеў есьці, от што.

— А Стэфа да мяне цёнгле чэпіцца, як смала Я яе не чапаю. Няхай яна ня леэ-эзь-зе, от што.

— Ня трэба плакаць,—сказаў на мяне бацька.

І я яму адказаў, што я і ня плачу. Што я яму не якое-небудзь малое дзіця. От што.

Бацька на гэта расьсьмяяўся, а я дадаў:

— Я прабіў нагу на шкло. З маёй нагі унь колькі нацякло крыві. Мяне нават пачынае млявіць.

— Ты дай мне вады!—загадаў я Стэфе.

А калі я напіўся, бацька сказаў матцы, каб яна знайшла чыстую кужэльную, з старызны, анучку.

— Трэба прамыць і завярцець,—сказаў ён,—каб не набілася пяску, каб ня было нарыву.

* * *

Аказалася, што мой бацька ня тое, што цапулапу. Аказалася, што ён чалавек і нават вельмі разборчывы. Пакуль ён чаго не разьбярэ, не разьведае да самай макулінкі—не адчэпіцца ад цябе. От ты яму расказвай ад таго самага мейсца, як гэта, дзе гэта пачалося. Расказвай, а ён будзе глядзець табе ў вочы і нават ня мігне. І калі ты яму ўсё па-парадку скажаш—нічога не забываеш—ён вельмі рад. Тады ён цябе ня будзе біць, хоць-бы ты вунь якога нарабіў ушчэрбу.

Ён мяне ані аднаго разу ня біў. Мне здаецца, каб ён мяне набіў, я ня вытрымаў-бы ад болю. Мне думаецца, што гэтае біцьцё вельмі баліць. І калі бацька, сказаў цяпер, што ён будзе біць, мне вельмі нават зрабілася страшна. Я вырашыў, што ў сто разоў лепей расказаць па-парадку, чымся цярпець.

І я расказаў яму, як гэта яно было.

— Дык от сынок,—сказаў ён мне, калі я скончыў,—дык от...

Я чакаў, што ён скажа далей, і ён сказаў:

— Уся гэтая твая работа, па майму дзяшоваму падліку, каштуе пяць рублёў і дзевяць капеек.

— Ведаеш ты, сынок, што гэта такое: пяць рублёў і дзевяць капеек?

— Грошы,—адказаў я.

— То-то-ж, што грошы.

І бацька пачаў мне даказваць ушчэрб праз маю, як ён казаў, дурасьць.

— Штаны, калоша разадраная—дваццаць капеек. Гэта раз.

— Шыба—наўрат ці ўставіш яе за паўрубля, няхай сябе паўрубель,—гэта два.

— Нага прабітая на шкло — боль, цераз якую табе нельга будзе ісьці ў падпаскі на гэтым тыдні: тры дні за сябе, па поўрубля за дзень—паўтара рубля, ды тры дні за Марцінчыка, за тое, што бралі ў яго на насеньне бульбу—таксама поўтара. Вот табе і тры рублі. Гэта ня лічачы таго, што табе балела нага, калі ты прабіў і будзе баленць, аж пакуль загоіцца,—гэта тры.

— Зломаная іголка—адна капейка,—гэта чатыры.

— Іголку няма чаго ўлічваць Я магу адкупіць за анучы,—сказаў я бацьку. Але бацька прыпыніў мяне. Ён мне вытлумачыў, што анучы таксама каштуюць нешта.

Ён вылічваў далей, а я слухаў. Потым, калі скончыў паглядзеў на мяне, на мой твар і запытаў:

— Гэта добра, сынок?

— Ну, то што я мог яму сказаць. Я толькі падумаў сам сабе, што, падлічваючы, канешна, нападлічваеш. І яшчэ я падумаў сам сабе, што гэта ўсё, канешна, я прымаю за ўшчэрб.

Тады бацька зморшчыў лоб—нібы далёка схадзіў за думкаю. І вярнуўшыся з ёю, з гатоваю ўжо, як мае быць, запытаў:

— Што можна-б было, сынок, купіць на гэтыя грошы?

— На гэтыя грошы?—падумаў я з паўхвіліны.

— Ага?—паглядзеў бацька мне ў вочы.

— За гэтыя гро-о-шы,—ня скончыў я думаць,— за іх бадай што можна было-б купіць... прышыць мне прышвы да вашых старых халяваў.

— Ты не памыліўся, — падмацаваў бацька, — амаль, што можна-б было купіць і новыя спрэс боты. Ага!

Ну, то што я павінен быў рабіць...

І мне вунь як стала шкода... разадранай калошы ў маіх картовых штанах, разьбітай шыбы, рассыпанай мукі, збанка з малаком і—аладак.

Такіх-то смачных аладак! У сьмятане, ды яшчэ пасыпаных цукрам...

А нага, во, во як балела цяпер мая нага! Аж торгала. Я проста такі ня мог ступіць на яе, пасядзеўшы на лаве.

— Мусіць нарываць ці ня будзе?—вырашыў я.

# ПАСТУШОК.

Абы толькі сонца ўзыйдзе,
З хаткі выйдзе пастушок
Пад Лявона, у канец вёскі
І зайграе ў ражок:

Тру-ту-ту! Тру ру-ру!—
Гук раздасца па сялу.
І каровы ў дзьве мінуты
Усе зьбяруцца ў чараду.

Тады гоняць іх за вёску,
У бярозавы. гаёк;
Дзе пасе аж да зьмяркань
Ен адзін увесь дзянёк.

А у вечар з сваім стадкам
Ідзе зморaны дамоў,
На плячох у яго кошык,
Што за дзень у полі сплёў.

Вучань *Я. Бокуць.*



# ДЗЕНЬ У СТАРОЙ ШКОЛЫ

*Нарыс А. ГУРАРЫЯ.* *Ілюстрацыі ІВ. ШУЛЬГІ.*

Антэ, апуд, ад, здвэрзус...
Антэ, апуд, ад...
Антэ, апуд, ад...

Калі толькі паглядзець на мяне з боку, дык можна падумаць, што я вось-вось ня вытрываю, пырсну сьмехам. Вялікія пальцы рук заткнулі вушы, указальныя націскаюць на павекі, рэшта пальцаў трымае падбародак. Гэта я так „зубру" лацінскія прыйменьнікі. Іх 21. Я перасправабаваў усялякія спосабы, але праклятыя прыйменьнікі ніяк ня хочуць знаходзіць сабе месца ў маёй галаве.

Антэ, апуд, ад, здвэрзус...
Антэ, апуд, ад, здвэрзус...

— Пакінь, зубрылка... Заўтра цябе ўсёроўна ня выклічуць...

Алесь рашучым махам загортвае ў мяне пад носам кніжку.

— Ты так думаеш, што ня выклічуць?

Гэта ўжо я запытваюся для таго, каб заспакоіць сваё сумленьне. У думках я ўжо раней згадзіўся, што зубрыць прыйменьнікі мне няма зачым.

— Зараз прыдуць Марылька, Сяргей, Сымон, будзем складаць сьпісы касы ўзаемадапамогі і чытаць „гісторыю культуры". Згодзен?

— Так, згодзен.

Стукаюць. Нехта, у вопратцы, убягае ў хату. Звычайна, Сымон як і заўсёды, з „гісторыяй".

— Ой, каб вы ведалі, што было толькі што?

— Што?..

— Зьміцер Іванавіч заўважыў мяне і давай сачыць сьлед. Я яго павадзіў-павадзіў, а потым праз агароды ды сюды.

— А ён астаўся?

— Пакаўзнуўся, бедненькі, калі йшоў на гору і ўсю дарогу назад, небарака, на сваёй шынэлі праехаў.

Мы сьмяемся. Сюды ён не патрапіць заляцець у поўнач і праверыць, якія кніжкі ў мяне ляжаць на стале і сапраўды я сплю.

— Дык вось за работу. Нашай касе ўзаемадапамогі трэба ўнесьці плату за чатыры чалавекі з мужской гімназіі і за два з жаночай. Для гэтага трэба сабраць грошы з бацькоў нашых членаў касы, бо самі мы грошай ня маем.

— Падзелім на вучасткі горад, вылучым па пары чалавек на кожны вучастак і пойдзем.

— Складай сьпіс.

— Толькі прозьвішчаў ня пішы. Чаго добрага—знойдуць і вылецііш з гімназіі.

Вылецець з гімназіі можна за што заўгодна: за сьмелы адказ, за тое, што ня скінуў шапкі перад інспэктарам, за позную гулянку, а лягчэй за ўсё за стварэньне якой-небудзь організацыі вучняў і за чытаньне забароненай літаратуры.

— Пішы псэўдонімы. Ты будзеш—Носік, Алесь—Вачкасты, Сымон—Калмыкоў... Згодны? Памалу прыходзяць і іншыя сябры. Пачынаем чытаць. Але раптам:

— Пачакай, а што, па-твойму, прымусіла чалавека адзявацца—холад ці сорам?



*Чарговы, хто сёньня ня прышоў?*

Пачынаюцца спрэчкі. Доўгія і гарачыя, у час якіх няпрыкметна зьядаем гаршчок прапахлай дымам печанай бульбы і забываемся пра нудныя лацінскія прыйменьнікі.

Боў-боў-боў... гадзіньнік б'е дзевяць... Даўно мінула гадзіна, да якой дазвалялася вучням хадзіць па гораду—шэсьць гадзін... А мы й ня думаем разыходзіцца.

— У кіно!

Трэба пераапранацца: у гімнастычнай форме ня пусьцяць. Для ўсіх звычайнай адзежы не хапае. Я бяру ў кішэнь памятую бацькаву шапку і іду.

— Эх, была—ня была...

* * *

— Заня, пусьці...

— Чаго ты прышоў у гімнастычнай форме?

— Ды я-ж у бацькавай шапцы. А якая табе справа да шынэлі?

Заня—сын гаспадара кіно, фактычны яго кіраўнік, люты вораг нашага брата—гімназістага.

— Ну, ідзі, што з табою зробіш?

Мы сядзім ля самага экрану. Амаль нічога й ня відаць, але—мы ў кіно!

І вось раптам... „наглядчык прышоў",—зашапталі хлопцы.

Што рабіць? Трэба ратавацца. Я ўсхопліваюся і бягу на вуліцу. А потым успамінаю: у залі, дзе мы сядзелі, кучы лушпін ад гарбузоў і .. мая папружка...

Праз запасны выхад, паўзу ракам і ратую сваю папружку.

* * *

— Уставай... Ужо позна.

— М-м-м...

— Уставай, спозьнішся...

— А гудок быў ужо?

Нічога ня зробіш, трэба ўставаць. Бордза п'ю чай, торбачку падрыхтаваў яшчэ ўчора, — бяру яе і—пашоў. Калі я ў разьдзявальні скідаю калёшы, чую: зьвініць званок.

— Малітва... Спазьніўся...

Калёшы ляцяць у куток, а я што-духу прусся ў клясу.

Раптам павісаю ў паветры. З страхам гляджу ўгору. Дырэктар... Яго пальцы моцна трымаюць мае валасы.

— Добры дзень, Мітрапан Іванавіч...

— Здароў, здароў... Ты што гэта з прычоскаю?

Я маўчу. Я знаю сваю віну: у „правілах трыманьня" запісана: „забараняецца насіць доўгія валасы, вусы і бараду". Вусоў і барады ў мяне то няма, але прычоска...

— Я заўтра пастрыгуся, Мітрапан Іванавіч.

— Ідзі.

* * *

Не, мне зусім не шанцуе сёньня.

— Чарговы, хто сёньня ня прышоў?

— Чарговы!

Моцны кулак па галаве напамінае мне, што я чарговы...

— Я-ж тут, але... я... я спазьн...

Я зусім зьбіўся з толку. Клясны наглядач нешта запісаў у журнал...

А заднія вучні ціхенька жартуюць з мяне:

„Хто запісан у кандуіт,
без абеда тот сідіт"...

... Вы ня ведаеце, што такое кандуіт? Шчасьлівыя людзі! Кандуіт—гэта кніжка, куды запісваюць усе вашы „грахі"... А калі іх назьбіраецца многа, вы „царства нябеснага" ня ўбачыце—атэстату дасьпеласьці ня ўбачыце.

А што такое атэстат дасьпеласьці? Гэта паперка, дзе запісваецца, што вы скончылі такія і такія навукі, а таму... вы—дарослы чалавек. А калі ня будзе ў вас такой паперкі, дык нават вусы і барады ня вывядуць вас „у людзі"...

... Дык вось... папаўся ў кандуіт. Ну, і дзень!

У дзьвярох зьяўляецца спачатку ларнэт (акуляры), потым журнал, а ўжо за ўсім гэтым іх уласьніца.

— Банжур, мадам! [1])

— Банжур! [2])

— Вазьмеце вашы сшыткі, будзем пісаць практыкаваньне...

З усіх бакоў чуюцца ўздыханьні, чаму сёньня ня коўзка і чаму француджанка ня зьвіхнула нагі. Накрыўкі партаў стукаюць, як дзе на вялікай будоўлі.

— Кэс-кэ-сэ [3]). Чаму вашы парты так стукаюць?

— Яны не памазаны.

— Мон дьо! [4]). Чаму вы іх не памазалі?

Мы хіхікаем спачатку ў кулак, потым хаваемся за партамі, нарэшце ня вытрымліваем:

— Гі-гі-гі... раздаецца на ўсю клясу.

— Вы гадкія хлопчыкі. Я буду гаварыць з мэсье дырэктарам...

Практыкаваньне сяк-так пачалося. Грукат і шум ня сьціхаюць?

— Давідаўская! Пурква [5]) вы так часта адчыняеце парту?

— У мяне ляжыць... Ганна Семёнаўна, у парце хустка ля-



*Банжур, мадам!*

жыць... — салгала Давідоўская, якая не адрывала вачэй ад кніжкі, з якой дыктавалася практыкаваньне. Так рабілі і ўсе іншыя.

— Палажэце хустку ў ваш... у ваш а вотр пош... [6])

— Я не разумею...

— Перакладзі яму, Махнач, што азначае „ля пош"...

— Ня ведаю...

— Сядай... Давідоўская, палажэце хустку ў ваш ля пош"! У іншым разе я пастаўлю вам ядзініцу за такія паводзіны. Вы зразумелі?

— Ага... у кішэню...

Пісьмовую працу сяк-так скончылі.

* * *

— Дзеці! Сёньня Мітрапан Іванавіч імяніньнік і мы ў час перапынку пойдзем яго віншаваць.

— Усе?

— Не, тры чалавекі. Пойдуць Махнач, Трус, і,—паказвае на мяне,—вы.

— А як віншаваць яго, Міхайла Паўлавіч?

— Махнач будзе віншаваць, а вы і Трус па ўсіх правілах пакланіцеся. Зразумелі? Праз дзесяць хвілін пойдзем. Ён выходзіць. Мы пачынаем практыкаваньне ў аддачы паклону.

Пашлі.

Дырэктар сустракае нас у сталовай. Махнач, які паважна йдзе сьпераду, пачынае з месца ў кар'ер.

— Віншуем вас, Мітрапан, з днём ангела.

— Махнач!.. Па бацьку...— з жахам шэпча настаўнік, які нас прывёў.

... з днём ангела, Іванавіч,— канчае Махнач і чырванее да вушэй.

Я напружваю ўсе сілы, каб пакланіцца як найпрыгажэй, а галоўнае добра закруціць ножкаю... Адстаўляю ўправа нагу, нахіляюся сам ўперад і... ах, у дырэктара такая коўзкая і такая цьвёрдая паркетная падлога!..

Калі мы выходзім на вуліцу, у мяне яшчэ стаяць сьлёзы на вачох. Такі сорам, такая ганьба. Пракляты дзень!

* * *

Лекцыя расійскай мовы. Я яшчэ не адышоў ад сцэны ў дырэктара. Ля табліцы хтосьці чытае адным духам напамяць урывак з Гогаля:

„Чуден Днепр при тихой погоде, когда вольно и плавно мчит он сквозь леса и горы"...

Думкі мае ўсё яшчэ верцяцца ля паклону, і ня чую я, як выкладчык называе маё прозьвішча. Таварыш мой стукае мяне локцем.

— Я.

Настаўнік доўга ўглядаецца на мяне і раптам ставіць пытаньне руба.

— Што вы чыталі ўчора?

Пытаньне гэтае было неспадзяваным для мяне.

— Гісторыю...

Алесь тузае мяне за шынэль з такой сілай, што аж гузікі адшпуляюцца, і праз гэта я адразу сьцяміў, ў чым справа.

— Гістарычныя нарысы...



*Віншуем вас, Мітрапан, з днём ангела.*

---

[1]) Добры дзень, мадам!
[2]) Добры дзень!
[3]) Што гэта такое?
[4]) Мой божа!
[5]) Навошта.
[6]) У вашу кішэню.

— Гм... Якія гэта гістарычныя нарысы?

— З часопісі „Былое“ [1]).

— Дур...—ацэньвае Алесь мае разумовыя здольнасьці.

— Так... так... „Былое чытаеш. Так-с. Прыдзецца пагутарыць з тваім бацькам.—Садзіся!—раптам крычыць ён, чырванеючы ад злосьці.

Я саджуся. Так, Алесь не памыліўся...

* * *

Верце майму слову, што калі чалавек сам ўпэўніць сябе, што ён дурань, дык нічога добрага і надалей ня можна чакаць. Лекцыя латыні гэта бліскуча падцьвердзіла.

— Калі ласка, да дошкі... Які ведаеце лацінскія прыйменьнікі

— Антэ, апуд...

— Ну-с?

— Антэ, апуд, цырка...

— Яшчэ?—Лаціністы загадзя радуецца, што ёсьць магчымасьці паставіць „ядзініцу“.

— Цырка, контра...

я, здаецца, за ўвесь дзень сёньняшні не набяру пяцёркі...

Алесь, спачуваючы, усьміхаецца.

* * *

Звоняць на вялікі перапынак. Адразу шумам, крыкам, гулам поўніцца калідор.

— Хлопцы? Пятая кляса Ваську лупцуе!

Васька—першы забіяка, спрытны і дужы. Ён сядзіць па два гады ў кожнай клясе. Яму ўжо васемнаццаць гадоў.

Абараняць Ваську кідаецца наша баявая група—лепшыя забіякі, і праз некалькі хвілін ў калідоры ўжо кіпіць бойка—кляса супроць клясы. Унізе, у настаўніцкай, раптам пачынаюць дрыжаць лямпы, спадае штукатурка і грукаціць, быццам угары цэлая чарада сланёў скача „казака“. Клясны настаўнік ужо разумее, у чым рэч...



*Ну-у-у у,—крычыць Васька, дрыгаючы нагамі і ня ведаючы, хто так моцна трымае яго за вушы.*

У галаве мітусіцца праклятая думка—буду мець „ядзініцу“.

З усіх бакоў мне суфлірують:

— Інфра.

— Інфра.

Пасьля кожнага прыйменьніка загінаю палец. Васемнаццаць... Дзевятнаццаць...

Далей хоць забі...

— Колькі ўсіх прыйменьнікаў?

— Дваццаць адзін.

— Колькі вы налічылі?

— Дзевятнаццаць.

— Сядайце! Я пастаўлю ў журнале столькі, сколькі вы ня ведаеце,—і супроць майго прозьвішча важна выводзіць двойку.

— Алеська,—кажу я сумна,—

У той час, як Васька з крыкам пераможцы перaлятае праз галаву сілача пяцікласьніка Лебедзева,—ля іх зьяўляецца... Зьміцер Іванавіч.

Канец адбываецца з хуткасьцю маланкі.

Васька трапляе галавою проста ў жывот Зьміцера Іванавіча, той цяжка апускаецца на мяне, рэшта мігам рассыпаецца, і мы астаемся ўтраіх—настаўнік, Васька і я.

— Ну-у-у-у,—крычыць Васька, дрыгаючы нагамі і ня ведаючы, хто так моцна трымае яго за вушы.

— У-у-у,—вые ад злосьці й болю жывата настаўнік, моцна сьціскаючы Васькавы вушы.

— Угу-у-у,—пішчу я, дарэмна намагаючыся выбрацца з-пад настаўніка.

Уся гэта гісторыя канчаецца кандуітам і двума гадзінамі без абеду, пасьля сканчэньня заняткаў.

Зарабіў... Што-ж вы зробіце, калі не шанцуе.

* * *

Перапынак скора скончыцца. Мы з Васькам злосныя на цэлы сьвет і больш усяго на Зьміцера Іванавіча.

— Ведаеш што?—Васька прыдумаў новую прыгоду...

Ён—Ну? схіляецца да мяне й шэпча мне на вуха новы плян. Штука рызыкоўная, але сёньня я гатовы рабіць усё, што заўгодна.

— Згодзен! Скажы Сяргею, Вольцы і яшчэ двом-тром.

Зроблена!

Перапынак скончыўся. Паволі заціхаюць адна кляса за другой.

Толькі наша, чацьвертая, гамоніць у калідоры.

— Чаму не сядаеце на месца?

Галовы баляць, чад у клясе вялікі...

— Чаго там чад?

— Мабыць печка няспраўна.

У клясе сапраўды чадна. Паслалі за пячнікам.

Праз хвілін дзесяць выбягае пячнік з тлеючай гумай. Таямніца чаду выкрыта.

У кандуітным журнале запісана: „4-ай клясе за псаваньне печы і за адмаўленьне назваць віноватага—на два тыдні штодня па дзьве гадзіны без абеду“.

Цярпім усе, але таварыша ня выдалі. У гімназіі мы—гэроі дня. Такой кары ня мела яшчэ ніводная кляса. Пятая кляса, як мы сваім чадам вызвалілі ад латыні, нават закрычала нам „гура“. За гэта варта пакутваць...

Дома я складаю нябыліцу пра бібліятэкара, які нібыта захварэў і што мы яго чакалі... і борздa сёрбаю халодны абед.

За вакном, у чорнай цемры, ледзьве гарыць, ліхтар. Мізэрны сумны прамень ад яго асьвятляе вакно і кроплі, што зьбягаюць па ім. Я сачу за ім і губляю іх. Кропля за кропляю зьбягаюць яны, як цякуць мае дні ў школьных сьценах.

---

[1]) Часопісь, якая адзін час была забаронена царскай уладай.

# Элькавы прыгоды



Малюнкі *М. Філіповіча.*

Верш *З. Астапенкі.*

*(Працяг).*

Рыкша ўстаў...
Захістаўся
І... не крануўся з месца.
— А, ты гэтак, жывёла!
Выскачыў—і з кулакамі...
Рыкша зваліўся ля кола,
Кроў палілася на камень.
Раптам...
У дзіве нейкім
Сам захістаўся ангелец,—
Нехта грозны й маленькі
Стаў ля каляскі сьмела.
— Хіба ты маеш права?!
— Хіба гэта законна?!
І размахнуўся жвава
Грознай маленькай рукою.
Гэта герой наш—Эля
Зьдзеку ня мог перанесьці.
Раз... і зваліўся ангелец,
І... Застаўся на месцы.
Крычаць кітайцы,
Прыбеглі рыкшы,
Шмат гандляроў.
— Вось гэта хвацкі!
— Вось малайчына.
Крычыць натоўп.
Ў натоўп Элі
Руку рабочы
З павагай жме...
У абурэньні
Бліскаюць вочы,
Лунае сьмех.

## ЭЛЬКА Ў НЕБЯСЬПЕЦЫ.

Раптам...
На плошчы сьвісткі.
Крык узварушыў сьцены.
— Гэй, уцякайма, браткі!
Ідуць полісмэны!
З жахам бяжыць натоўп.
Рыкшы бягуць, імкнуцца.
Шум, а сьвісткі ізноў
Вуліцай шумнай нясуцца.
— Стой!—Разьняслося ля сьцен.
І падыйшоў да Элі
З чорнай дубінкай у руцэ
Злосны ангелец.
Ўзялі яго й павялі
Вуліцай сумнай, заціхшай.
І пасьціхалі ўдалі
Крыкі, пагрозы рыкшаў.
— Будзе ваенны суд!
— Мы вам пакажам бунт!—
Кажуць з пагрозай Эльцы
Злосна і груба ангельцы.
Вось прывялі да брамы.
Эльку ўвялі... Абшукалі.
— Гэта твая турма!—
Тут ты суду пачакаеш...
Кінулі ў страшны пакой,—
Цесны, сыры і шэры;
Злосна махнулі рукой
І зачынілі дзьверы.
— Што мяне заўтра стрэне?
Гукнуў Элька вясёла.
Выняў паперу з кішэні,
Сеў і дастаў аловак.
Хутка аловак ляціць.
Думак і словаў багата.
Раптам...
Што там шуршыць?
Што гэта робіцца з кратай?
Ціха. Ночка імгліць.
Ночка вартуе мігі.
Толькі жалеза скрыпіць.
Краты скрыпяць паціху.
— Ша, гэта мы—свае...
Рэжацца крата ўсё далей...
Хвіля, другая...
І ўлез
Цераз вакно кітаец.

## ЭЛЬКУ ВЫЗВАЛЯЮЦЬ.

— Ну, уцякайма хутчэй...
Шэпча кітаец у цішы:
Нас падаслалі свае—
Піонэры, рабочыя, рыкшы...
Ты заступіўся за нас—
Мы ў падзяку рашылі
Вызваліць...
Ну, ужо час.



Дорага кожная хвіля.
Могуць злавіць ізноў...
Ну, дык хутчэй уцякаем.
Элька палез у вакно,
А за ім і кітаец.

. . . . . . . . . . . . . . . .

На вуліцах ціш.
Цямнее высь.
Заснуў Шанхай
Каменнай плямай.
Вось ходзіць ціха вартавы
І ціхі крок
Гучыць за брамай.
Як цень пралезьлі...
Ня дыхнуць...
Квартал мінулі.
Зьніклі брамы.
І хутка Эльку
Ўжо вязуць
Маланкай рыкшы да акраін.
Хутчэй... Хутчэй...
Вось горад зьнік.
Няма ўжо шумнага Шанхаю.
Ўздыхае недзе паравік.
Ляжаць плянтацыі бяз краю.



### ЭЛЬКА ЕДЗЕ Ў СССР.

У палёх кітайскіх ніў
Вецер хмары пылу носіць.
Хутка йдуць гадзіны, дні,
Тыдні, месяцы ў дарозе.
Хутка едзе-мчыць атрад,
Вецер у полі рыс калыша...
І ня вернуцца назад
У Шанхай 12 рыкшаў.
— Як-жа?—Элька кажа ім:
Што-ж рабіць з вас кожны стане,
Як надыйдзе той уздым
І Кітай увесь паўстане?
— О, мы зьвернемся тады!
Кажуць рыкшы і ўздыхаюць,—
Пройдуць гэтыя гады,
Будзе воля і ў Шанхаі!
Хутка едуць. У цішыні
Вецер хмару пылу носіць.
Хутка йдуць гадзіны, дні,
Тыдні, месяцы ў дарозе.

### ЯШЧЭ НЕБЯСЬПЕКА.

Хутка ўжо мяжа!—Аднойчы
Праказалі рыкшы Элі.
І раскосыя іх вочы
Ў буйным шчасьці заагнелі.
— Але чуткі ёсьць—за намі
Мчыцца дзесь атрад вайсковы.
Ён тут пэўне будзе днямі,—
Хоча ўзяць абавязкова...
І над рыкшамі трывога
Сумна зьвісла у зацішшы...
Едуць зноў. Ізноў дарога.
Зноў сьпяшаць-імчацца рыкшы.
... І, нарэшце, раніцою,
Як мяжа стала віднецца,
Эля ўбачыў за сабою
Пад гарой атрад ангельцаў.
Падхапілі разам коні,
Паімчалі, што ёсьць сілы.
І пачалася пагоня
У стэпох, у хмарах пылу.
Тра-та-та! Тра-та-та!
Звоняць, звоняць, капыты...
Ня прыстаць...
Ня прыстаць...
Ня прыстаць-бы нам, браты!
Элька мчыць...
Рыкшы мчаць.
Травы шумныя шуршаць ..
Не дагнаць...
Не дагнаць...
Бо ўжо хутка... Вунь мяжа!
Тра-та-та! Тра-та-та!
Вораг ўсе бліжэй, бліжэй...
Ня прыстаць-бы...
Ня прыстаць...
— Эй, хутчэй!
Раптам...
Насустрач, што сілы
Нейкі атрад нясецца...
Гэта у хмарах пылу
Мчаць чырвонаармейцы!
— Гэй! Ура! не дагналі!
Вось і канец пагоні.
Ззаду ангельцы сталі
І павярнулі коняй.
Тра-та-та! Тра-та-та!
Зьнік у рыкшаў жах.
Мчацца... Мчацца...
Раптам,—стоп!
М я ж а!!!

### ЭЛЬКА ЕДЗЕ ДАМОЎ.

Тру-ту-ту! Тру-ту-ту!
Гром і стук.
Ляск і стук.
Праз лагчыны ды загоны
Едуць гулкія вагоны.
Што далей—шыбчэй імчаць:
Чах-чах-чах! Чах-чах-чах!
Ну й разгон!
Праз адгон
Мчыцца буйны цягнік—
— Да-га-ні... Да-га-ні...
Ціха крэкча вагон.
Гром і стук.
Стук і звон...
— Ну й разгон!
Мчаць, вагоны ход калыша.
Разам з Эляй едуць рыкшы.
Дзень, другі...
І на вагзале
У Маскве ўсе пазьлязалі.
Тут для рыкшаў ёсьць пристань-
не.

Адбылося разьвітаньне.
І паехаў Эля далей.
Паравік імчаўся з тактам.
У Беларусі на вагзале
Стрэўся з маткаю і татам.
А назаўтра—клюб знаёмы
І таварышы ізноў.
Зноў заняткі...
Шум і гоман...
Зноў каханае зьвяно!
А праз дзень прысеў і разам
Напісаў усё да краю
Аб сваёй вандроўцы сьмелай
І прыгодах у Кітаі.
Напісаў. Уклаў рупліва,
Акуратна у канвэрт.
І на ім прыгожа вывёў:
У „Беларускі Піонэр“.

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ Ў БЕЛАРУСІ.

Ад жывёлы кожны селянін, кожная земляробная організацыя можа мець самы большы прыбытак. Як вядома, збыт мяса, сала і інш. мае пэўную забясьпеку. Ня толькі ў Беларусі, а такі прадукт з прыемнасьцю, і за добраю цану, знойдзе сабе дарогу ў іншых суседніх рэспубліках, ды нават і заграніцай.

Дагэтуль жывёлагадоўля складала самую таварную частку нашай сельскай гаспадаркі. Амаль палову ўсяе таварнасьці (таго, што вывозіцца сельскай гаспадаркаю для продажу) складалі прадукты, здабытыя ад жывёлагадоўлі: масла, сыр, мяса, малако, сала і інш.



У Беларусі справу жывёлагадоўлі можна разьвіваць у досыць шырокіх разьмерах. Грунт для такога разьвіцьця ў нашай сельскай гаспадарцы ёсьць добры. Беларусь самая балоцістая краіна, у Беларусі ёсьць яшчэ многа нявыкарыстанай зямлі, на якой можна разводзіць безьліч карняплодаў, турнэпсу, усялякіх кармавых траў.

І вось, улічваючы ўсю выгаду ад жывёлагадоўлі, *як самай таварнай часткі сельскай гаспадаркі*, пяцігадовы плян намячае шэраг вялізарных мерапрыемстваў па разьвіцьцю ў Беларусі жывёлы.

Асноўнае ў разьвіцьці жывёлагадоўлі гэта: *здабыча харчаваньня і паляпшэньне пароды жывёлы.*

### Дзе ўзяць харчы?

Вядомая рэч, што харчы—аснова ў жывёлагадоўлі. Будзе больш харчоў—будзе гадавацца больш жывёлы.

Аб харчах нашы сяляне мала клапоцяцца. Ёсьць салома,—добра. А калі хто сяды-тады дасьць карове „пад нос“ мякіны ці яшчэ чаго лепшага, дык гэта ўжо лічыцца цэлай раскошай! Затое, што варта такая карова, якая харчуецца сухою саломай ды яшчэ, чаго добрага, стаіць цэлы год па калені ў гнаі...

Звычайна сялянскія кароўкі ледзь выжываюць да вясны. На пашу выганяюць скуру да косьці... Цэлую вясну прыходзіцца папраўляцца такой карове ад зімовай пакуты. І толькі ўлетку, трохі акрыяўшы, можна, з горам папалам даіць такую карову.

Ня лепш яно робіцца і з другою жывёлаю: сьвіньнямі, авечкамі.

Дзе-ж выхад?

Агульны ўздым сельскай гаспадаркі: стварэньне буйных колектываў, асушка балот, падвышэньне ўраджайнасьці ды інш—дасьць значную прыбаўку харчоў. На гэтай прыбаўцы харчоў можна будзе гадаваць лішнія тысячы галоў жывёлы. Але-ж гэта, хоць і асноўнае, ды ня ўсё. Кожнаму гаспадару трэба знаходзіць і другія спосабы набыцьця харчоў. Трэба больш сеяць палявых траў, канюшыны, бульбы, турнэпсу, кармавых буракоў.

Усе гэтыя пералічаныя культуры даюць найлепшыя харчы для жывёлы, толькі яны могуць папраавіць справу жывёлагадоўлі. Можна з посьпехам скарыстаць і квашаныя (сіласаваныя) харчы, для якіх спатрэбіцца розны цяўнік, атава, хвошч, бярозка і іншая трава. Такія сіласаваныя харчы можа зрабіць кожны гаспадар, дагаварыўшыся раней з аграномам.

Сельска - гаспадарчымі аб‘яднаньнямі — колгасамі, саўгасамі, коопэратывамі—будзе пабудована *4½ тысячы* буйных будынін, дзе будуць рыхтавацца квашаныя харчы для жывёлы. Гэта будуць цэлыя фабрыкі харчоў!

Вось якое мяркуецца павялічэньне харчоў па некаторых культурах:

а) саломы і мякіны павялічыцца на 8,2%;
б) сена—на 45,7%;
в) бульбы—на 90,2%;
г) гародніны і кораньплодаў—на 931%.

Такое значнае павялічэньне харчовай базы дасьць рост жывёлы ня менш, чым на 21%, у параўнаньні з тэй колькасьцю, якая ў нас ёсьць цяпер.

### Як палепшыць пароду жывёлы?

Жывёла ў нашага селяніна звычай дробная, лядаштая. Асабліва гэта ярка кідаецца ў вочы, калі параўнаць хоць-бы вясковае быдла з быдлам саўгасу, дзе дробнае быдла амаль павыводзілі.

Але селянін і ня мог мець добрай каровы, калі ня меў чым карміць яе. Самая добрая парода можа стаць дрэннай, калі будзе есьці адну толькі салому.

Замяніць пароды жывёлы можна двумя шляхамі: а) шляхам злучных пунктаў палепшыць нашу мясцовую пароду быдла і іншай жывёлы, б) гадаваць новую жывёлу, якая будзе пашырацца праз спэцыяльныя племянныя гаспадаркі.

Вось гэткімі спосабамі і будзе праводзіцца работа над паляпшэньнем жывёлы.

У гэту пяцігодку дзяржава організуе ня менш *11 племянных* гаспадарак буйнай рагатай жывёлы, дзе будуць выводзіцца толькі лепшыя пароды быдла.



Увесь маладняк з племянных гаспадарак будзе перадавацца ў нашы буйныя саўгасы і колгасы, а значная частка яго пойдзе і на іншыя злучныя пункты. Шляхам такога пашырэньня племяннога маладняка можна будзе за бліжэйшыя гады разьвесьці новыя тысячы добрых кароў, бугаёў.

Сельска-гаспадарчыя коопэратыўныя аб‘яднаньні будуць уводзіць спэцыяльныя прэміі для тых сялян, якія выгадуюць лепшых бугаёў.

Усё гэта ня так і цяжка рабіць, калі добра ўзяцца за работу. Піонэрам таксама знойдзецца над чым папрацаваць. Апрача таго, што прыдзецца самім „рукі прылажыць“, трэба праводзіць шырокую агітацыю сярод бацькоў, суседзяў і ўсяго сялянства за тое, каб паляпшалі харчы для жывёлы, каб больш разводзілі жывёлы і каб паляпшалі яе пароду.

А. Ч.

# ВЫНІКІ КОНКУРСУ.

Рэдакцыя атрымала адказы ад 34 чалавек і лічыць, што гэтага вельмі мала. Задача варта таго, каб на яе зьвярнуць больш увагі.

„Лічу вельмі карысным,—піша адзін чытач,—зьмяшчэньне гэтага апавяданьня; яно прывучыць пільней прыглядацца да прачытанага“.

Разглядзеўшы адказы, мы лічым патрэбным зрабіць некалькі агульных заўваг.

Па-першае, знайшлося некалькі чытачоў, якія заўважылі толькі друкарскія памылкі (ня тыя літары пастаўлены), і на гэтым спыніліся.

Другая група ўзялася за справу надта глыбока і пачала мудрагельстваваць: ці крыга павернецца, паравернецца, перакуліцца, што ў апавяданьні сказана толькі, як Сымонка прывязаў пасак за рогі авечкі, а ня сказана, ці адзін ён пабег да дому, ці з авечкай і г. д. А тым часам не заўважылі, што авечка не мае такіх *рогаў*, каб можна было прывязаць за іх пасак. Наогул надзвычайна цікава адзначыць, што *аніводзін* з 34 *вясковых* чытачоў не заўважыў гэтай простай рэчы.

Толькі меншасьць папрацавала больш сур'ёзна і зрабіла ўсё, што магла. Праўда, усіх памылак ніхто не знайшоў; некаторыя налічылі іх у тры разы болей, чым трэба, а галоўных не заўважылі. Але ў параўнаньні з іншымі праца іх больш старанная. На гэты раз мы разьмяркоўваем прэміі паміж іх.

1 прэмія: Я. Маўр—„У краіне райскае птушкі“ ц. 1 р. 75 к.—*Б. Шарупіч* (Любань, Бабр. акр.; вёска Заельнае).

2 прэмія: Я. Маўр—„Сын вады“, ц. 80—А. Гаўер (Высачаны, Віцебск. акр.).

3 прэмія: Я. Маўр—„Чалавек ідзе“, ц. 55 к.—А. Матыль. (Каханава, Арш. акр., вёска Падбярэзьзе).

4 прэмія: М. Міхайлаў—„Апчхі“, ц. 30 к.—В. Мэбель. (Барысаў, Савецкая, 44).

5 прэмія: А. Алтаеў—„Да апошняй хвіліны“, ц. 20 к.—М. Казіцкі (Горкі, Ленінская, 4).

Для параўнаньня і праверкі зьмяшчаем тыя недарэчнасьці ў апавяданьні, якія мы мелі на ўвазе:

1. Спачатку сказана „пяшчаныя ўзгоркі з рэдзенькім хваёвым ляском“, а далей—дубы, клёны ліпы.

2. „Вучань 2-е клясы“, а ў канцы матка зьбіраецца аддаць Сымонку ў школу.

3. „Дзень хмарны: ні то дождж, ні то сьнег“, а далей—суха, цёпла.

4. Лісьце на дрэвах у гэты час не магло быць.

5. Таксама не магла кукаваць зязюля.

6. Авечка „чарнеецца“, а далей сказана, што яна белая.

7. Авечка ня „пішчыць“.

8. „Бераг быў стромкі“, а раней сказана—нізкі, балоцісты.

9. „Прывязаў пасак за рогі“,—рагоў у авечкі няма.

10—11. „Ільняныя валасы разьвіваліся ў паветры“. Па-першае, ён быў чарнявы, а па другое,—мокрыя валасы ня будуць разьвявацца.

12. „Маленькі Пятрусь“ раней быў старшэйшым і разважаў, як сталы.

13. „Бацька гладзіў сваю густую бараду“, а раней сказана, што ён быў голены.

Апрача таго, і малюнак няправільны: 1) адно дрэва яшчэ голае, а другое з лісьцем; 2) Сымонка бяжыць да авечкі ня з берагу, а з ракі; 3) расьце трава; 4) авечка з вялікамі рогамі; 5) цень ад дрэва кладзецца ў той бок, дзе знаходзіцца сонца.

З усіх удзельнікаў конкурсу толькі два зьвярнулі ўвагу на малюнак.

# ДЗЯЎЧЫНКА І ГРЫБЫ.

*Л. Н. Талстой.*

Дзьве дзяўчынкі йшлі дахаты з грыбамі. Ім трэба было пераходзіць чыгуначны шлях. Яны думалі, што машына далёка: вылезьлі на шлях і пашлі праз рэйкі.

Раптам зашумела машына. Старэйшая дзяўчынка пабегла назад, а меншая перабегла цераз шлях.

Старэйшая дзяўчынка закрычала сястры: „Ня йдзі назад!“

Але машына была нагэтулькі блізенька і так моцна шумела, што меншая дзяўчынка не пачула; яна падумала, што ёй крычаць бегчы назад.

Яна пабегла назад цераз рэйкі, спатыкнулася, высыпала грыбы і пачала падбіраць іх.



Машына ўжо была блізенька, і машыністы сьвістаў, наколькі хапала сілы.

Старэйшая дзяўчынка крычала: „Кінь грыбы!“, а маленькая дзяўчынка думала, што ёй загадваюць сабраць грыбы, і поўзала па шляху.

Машыністы ня мог стрымаць машыны. Яна сьвістала з усяе сілы і наехала на дзяўчынку.

Старэйшая дзяўчынка крычала і плакала. Усе, хто ехаў, глядзелі з вакон вагонаў, а кандуктар пабег у канец цягніка, каб паглядзець, што сталася з дзяўчынкай,

Калі машына праляцела, усе ўбачылі, што дзяўчынка ляжыць паміж рэяк галавою ўніз і не варушыцца.

Потым, калі машына ад'ехала ўжо далёка, дзяўчынка падняла галаву, ускочыла на каленцы, пазьбірала грыбы і пабегла да сястры.



*Зэброіды.*

# ЦУДЫ САВЕЦКАЙ НАВУКІ.

## КАНЁК—ГАРБУНЁК І КОНЬ—ПАЛАСАЦІК.

Гэта было ў 1920 годзе. Чырвоныя гналі тады белых.

Белы атрад казакоў, не даходзячы вёрст сорак да Крыму, натактаў на сваім шляху вялікую савецкую гаспадарку. Казацкія коні не маглі трымацца на нагах ад вялікай зморанасьці. Таму казакі вырашылі паласавацца тут, у гэтай гаспадарцы, коньмі.

Калі казакі ўвайшлі ў стайню, то са зьдзіўленьнем убачылі казачных канькоў-гарбунькоў. Коні злосна фыркалі, нецярпліва перабіралі нагамі. У злых вачох мільгалі іскры. Грыва стаяла проста (тарчком), ад чаго коні здаваліся гарбатымі.

Памкнуўся быў адзін казак да канька, але атрымаў такога плескача, што паляцеў уверх нагамі.

І колькі казакі ні стараліся, нічога не змаглі зрабіць з лютымі коньмі. А трэба сказаць, што казакі лічацца лепшымі майстрамі па гэтай часьці.

Гордыя конікі слухаліся толькі свайго конюха, але той, вядома, не хацеў аддаваць іх белагвардзейцам.

Увайшлі казакі ў другую стайню і яшчэ больш зьдзівіліся.

Там стаялі прыгожыя паласатыя коні, вельмі дужыя з выгляду. „Паласацікі“, наадварот, аказаліся ціхімі і паслухмянымі жывёламі. Толькі з дапамогаю іх казакі здолелі вывезьці свае гарматы ў Крым.

Саўгас, куды трапілі казакі, завецца дзяржаўным запаведнікам Украіны (былы маёнтак „Асканія Нова“). Там да рэволюцыі жыў памешчык, вялікі аматар заморскіх жывёлаў. Ён і разьвёў сабе на пацеху цэлы пітомнік зьвяроў. Савецкая ўлада ператварыла гэты пітомнік у навуковую ўстанову. Туды былі пасланы вучоныя, каб рабіць вопыты і дасьледваньні над жывёламі, прывезенымі з другіх краін з тым, каб дабіцца лепшых пародаў, карысных нам у гаспадарцы.

Канёк-гарбунёк, які не захацеў ісьці з белымі, гэта—дзікі конь, прывезены з глухіх месц Мангаліі. Там яго ўпяршыню знайшоў расейскі вучоны Пржэвальскі, ад імя якога ён і атрымаў сваю назву *„конь Пржэвальскага“*.

Вучоныя думаюць, што дзікі мангольскі конь зьяўляецца прадзічам цяперашняга каня.

Хатні конь, атрымліваючы сваё разьвіцьцё ў няволі, страціў цэлы шэраг карысных якасьцяй. Калі парадніць дзікага каня з хатнім, то можна атрымаць новую жывёлу, больш дужэйшую і вынослівую. З гэтаю мэтаю дзікія коні і трымаюцца ў запаведніку.

Цяпер аб „паласаціках“.

У горных мясцовасьцях гарачай Афрыкі ёсьць цікавыя жывёлы, якія называюцца *зэбрамі*.

Уявеце сабе белага каня, якога свавольны мастак размаляваў чорнымі выкручастымі палосамі, і вы атрымаеце зэбру.

Прывезеныя ў запаведнік зэбры добра прыстасаваліся да нашага клімату. Каб вы ўбачылі, як гуляюць, як падбрыкваюць гэтыя прыгожыя жывёлы, вам-бы зрабілася надзвычайна весела.

Але справа ня толькі ў прыгожасьці. Вучоным удалося парадніць зэбру з хатнім канём. У выніку атрымалася новая жывёла, якая ў паўтара разы дужэй за нашага каня і зусім прыдатная для выкананьня ўсякае работы.

Вучоныя назвалі гэту жывёлу *зэброідам*. Зэброід і ёсьць той самы паласацік, на якім белыя казакі ўцяклі ў Крым. Тут, між іншым, трэба заўважыць, што казакам ня зусім пашанцавала Чырвоныя дагналі іх у Крыме, забралі ўсе гарматы і тых паласацікаў, што засталіся жывымі.

Ваколічныя сяляне ўжо даўно ведаюць каштоўнасьць паласацікаў і плацяць за іх такія-ж вялікія грошы, як за пародзістых коняў.

Так навука марудлівым шляхам вывяла новую жывёлу, якая аказалася больш карыснаю, чым вядомы ўсім нам конь.



*Конь Пржэвальскага.*

ЦАНА 12 кап.






## МУДРАЯ ТАБЛІЦА.

| 1-ы слупок | 2-гі слупок | 3-ці слупок | 4-ы слупок | 5-ы слупок |
|---|---|---|---|---|
| 16 | 8 | 4 | 2 | 1 |
| 17 | 9 | 5 | 3 | 3 |
| 18 | 10 | 6 | 6 | 5 |
| 19 | 11 | 7 | 7 | 7 |
| 20 | 12 | 12 | 10 | 9 |
| 21 | 13 | 13 | 11 | 13 |
| 22 | 14 | 14 | 14 | 13 |
| 23 | 15 | 15 | 15 | 15 |
| 24 | 24 | 20 | 18 | 17 |
| 25 | 25 | 21 | 19 | 19 |
| 26 | 26 | 22 | 22 | 21 |
| 27 | 27 | 23 | 23 | 23 |
| 28 | 28 | 28 | 26 | 25 |
| 29 | 29 | 29 | 27 | 27 |
| 30 | 30 | 30 | 30 | 29 |
| 31 | 31 | 31 | 31 | 31 |

У гэтай табліцы зьмешчаны лікі ад 1 да 31, упісаныя асаблівым парадкам. Хто-б не задумаў лік, які знаходзіцца ў гэтай табліцы, вы адгадаеце яго, няхай толькі скажуць вам, у якіх слупкох гэты лік знаходзіцца.

Напрыклад, вам скажуць: „Лік, які задуманы, знаходзіцца ў другім, трэцім і пятым слупкох". Падумаўшы трохі, вы адкажаце: „Задуманы лік—13".

Для таго, каб угадаць задуманы лік „13", які знаходзіцца ў 2, 3 і 5 слупкох, вам трэба скласьці лічбіны, якія стаяць першымі зьверху ў гэтых слупкох—другім, трэцім і пятым, гэта будуць: 8+4+1=13. Такім спосабам можна адгадаць усялякі іншы задуманы лік.

Першыя лікі ў слупкох вы павінны запамятаць, бо бяз гэтага вам нельга абыйсьціся.

## ЭЛЕКТРЫЧНАСЬЦЬ З ГАЗЭТЫ.



Вазьмеце газэту, прылажэце да гладкай печкі і патрэце шчоткай. Газэта наэлектрызуецца.



## ЖАРТЫ.

### Усе, як адзін.

— Разумееш, якія недарэчнасьці творацца: нават школьны доктар і той „н. зд" ставіць!
— Ды як-жа так?
— Вельмі проста. Учора ён так і напісаў у маёй картцы аб здароўі: „нездавальна".

### „Пусьцякі".

— Ну, дзеці, на заўтра падрыхтуйце, калі ласка, чарговы разьдзел фізыкі. Гэта-ж пусьцякі.
— Дык ці варта займацца пусьцякамі, Мікалай Пятровіч?



Дзе чацьвёрты купальшчык?

### „Змаганьне".

— Ну і прышлося-ж мне з адным міліцыянэрам змагацца! Як пачаў да пачаў ён мяне сваім канём цісьнуць, што хоць здавайся—рады няма!
— За вошта-ж ён так цябе?
— Як за што? Проста мы з ім у шахматы гулялі.

### Хітрасьць.

— Чаму насьценгазэту так высока павесілі.
— А ў ёй-жа, бачыш, заметка ёсьць пра нашага старшыню вучкому,—вось, ён і загадаў павесіць яе чым вышэй, каб ніхто не прачытаў.

Піонэрскія атрады, школы! Хто з вас не падпісаўся яшчэ на „Беларускі Піонэр"?
Сьпяшайцеся. — Яшчэ ня позна!
„БП" адзіная дзіцячая часопісь у БССР.

Друк. БДВ. Зак. № 3458. У ліку 1000. Галоўлітбел № 2314.